# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### СУСТРЭЧА Ў БУДАПЕШЦЕ

На сустрэчу прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый, якая пачалася ў панядзелак (26.II.) у сталіцы Венгрыі звяртаюць вялікую ўвагу. Трэба падкрэсліць, што своеасаблівае зацікаўленне сустрэчай праяўляе буржуазная прэса, а гэта сведчыць аб значэнні нарады ва ўсім свеце. Гэта абазначае, што **кансультацыйная сустрэча прадстаўнікоў камуністычных партый** з'яўляецца знамянальнай падзеяй ва ўсім свеце.

Асноўная тэма кансультацыйнай сустрэчы — падрыхтоўка новай сусветнай нарады кампартыі, якая праўдападобна адбудзецца яшчэ ў гэтым годзе. Апошняя нарада адбылася 8 год таму ў Маскве. За гэты час як у **міжнароднай абстаноўцы так і ва ўнутраным жыцці паасобных партый адбыліся змены.** Між некаторымі партыямі паявіліся розніцы, а нават спрэчкі на ідэалагічныя тэмы. Перад усім ёсць **розныя погляды на справы міру і вайны. ПАРП і КПСС выказваюцца** за мірным суіснаваннем даказваючы, што яно магчыма дзякуючы сіле Савецкага Саюза, які адстрашвае імперыялістычныя прэтэнзіі. Але не ўсе партыі аднадумныя ў гэтай справе. Кітайскія кіраўнікі партыі і ўрада мяркуюць, што пакуль існуе капіталістычны свет, вайна непазбежна, а ў сувязі з гэтым нельга шукаць якіх-небудзь паразумленняў з капіталістычнымі краінамі. Ёсць і іншыя розніцы ідэалагічнага характару.

Даўней гэтага тыпу справы ўладжвалі супольныя ўсім кампартыям органы (камінтэрны), якія часта накідалі паасобным партыям свой пункт гледжання. Сёння такога органа няма і няма патрэбы, каб ён быў. Паасобныя партыі раўнапраўныя і самастойныя. Кожная партыя сама вызначае сваю лінію, і адсюль неабходнасць паклікання праз нейкі час сусветных нарад.

Перад кампартыямі не вырашана і другая праблема. **Ці на нарадах пазбягаць спрэчак і гаварыць толькі аб справах аб'ядноўваючых, ці аб адных і другіх. Кіраўніцтва нашай партыі мяркуе** — аб чым гаварыў Ул. Гамулка ў Празе, — **што ўяўная аднадумнасць не спрые адзінству дзеяння.** Праграма дзеяння можа стварыцца толькі ў шчырай партыйнай дыскусіі нават над супярэчлівымі праблемамі.

Калі пішам матэрыял, спатканне ў Будапешце пачынаецца, і аб яго выніках у наступным нумары.

### СТРАТЫ

Амерыканская армія ў В'етнаме ў вайне з в'етнамскім народам атрымала найбольшыя страты ад другой сусветнай вайны. Сярод насельніцтва ЗША адчуваецца з гэтай прычыны з аднаго боку імкненне да эскалацыі вайны, а з другога — няўпэўненасць у перамогу.

### ПРЭСКАНФЕРЭНЦЫЯ У ТАНА

**У Тан** пасля паездкі да некаторых краін Азіі і Еўропы склікаў прэсканферэнцыю, дзе заявіў, што **ў в'етнамскай вайне не можа быць пераможных і пераможцаў.** Калі ЗША спыняць бамбардзіроўкі, перагаворы могуць пачацца нават на працягу некалькіх дзён.

А. К.

## БССР

### КАСЫГІН

Сталіцу Беларусі наведаў кіраўнік саюзнага ўрада **А. М. Касыгін**, які выступіў з вялікай прамовай падчас XVI Мінскай абласной партыйнай канферэнцыі. Гаворачы аб беларускай эканоміцы Касыгін, м. ін., сказаў:

...«у народную гаспадарку паступае яшчэ нямала ўстарэлых машын і абсталявання, якія не адпавядаюць сучаснаму тэхнічнаму ўзроўню. Гэта наносіць сур'ёзную шкоду нашай эканоміцы. Цяпер ясна, напрыклад, што для рэзкага ўзняцця прадукцыйнасці працы неабходна хутчэй ствараць магутныя трактары. (...) Выпускаемыя Мінскім заводам трактары «МТЗ-50» па сваёй магутнасці і па прадукцыйнасці ўжо цяпер не адпавядаюць гэтым патрабаванням. Мне далі даведку, што канструкцыя трактара «МТЗ-50» дае магчымасць устанавіць на ім рухавік магутнасцю да 80 конскіх сіл. Перад кіраўнікамі Мінскага маторнага завода, канструктарамі і інжынерамі стаіць задача — хутчэй вырашыць пытанне аб павышэнні магутнасці рухавіка «Д-50». Гэта дасць магчымасць узняць прадукцыйнасць трактара на асобных відах работ да 30 працэнтаў, скараціць затраты працы і расход гаручага. Трэба хутчэй замяняць устарэлую прадукцыю больш прагрэсіўнай. (...) Пуск прадпрыемства па вытворчасці капралактаму намечан у 1969 годзе. Аднак ёсць усе магчымасці гэты тэрмін скараціць: абсталяванне амаль поўнасцю пастаўлена. А для нас дарагі кожны сэканомлены дзень на будаўніцтве. Цяпер мы выпускаем у краіне каля 100 тысяч тон капралактаму. А адзін ваш завод павінен выпускаць 50 тысяч тон капралактаму.(...) Як вядома, у вас ідзе будаўніцтва завода па выпуску лаўсану. Мы цяпер у краіне выпускаем крыху больш чым 9 тысяч тон лаўсану. Ваш завод павінен будзе выпускаць 50 тысяч тон лаўсану. З гэтай колькасці лаўсану можна будзе вырабіць добрых тканін прыкладна на 2 мільярды рублёў. (...)»

Касыгін падкрэсліў, што Беларусь займае важнае месца ў прадукцыі электронных машын (машыны «Мінск»). Далей, м. ін., сказаў:

«Па Беларускай ССР даходы калгасаў і саўгасаў ад павышэння закупачных цэн узраслі за 1965 і 1966 гады больш чым на 440 мільёнаў рублёў у параўнанні з 1964 годам. Гэта зрабіла добры ўплыў на рост вытворчасці і продаж дзяржаве прадукцыі сельскай гаспадаркі. (...)

Ва ўмовах Беларусі шырокае ажыццяўленне меліярацыйных работ — асушэнне пераўвільготненых і забалочаных зямель — мае важнае значэнне для развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці. Вопыт паказвае, што меліярацыя зямель у Беларусі, асабліва тарфянікаў, з'яўляецца вельмі эфектыўным мерапрыемствам. Правільнае выкарыстанне асушаемых зямель дае магчымасць хутка акупіць зробленыя затраты».

Прамова Касыгіна была выслухана з вялікай увагай. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### АШЧАДНАСЦЬ

Дырэктар ПКО Эдвард Валяшчык у інтэрв'ю для «Трыбуны Люду», між іншым, заявіў:

«Агульна беручы можна сцвердзіць, што каля 90 працэнтаў усіх кніжак ПКО належыць да асоб, якія працуюць у нацыянальнай гаспадарцы, або да членаў іх сем'яў. Да рабочых належыць 34,5 прац. ашчадных кніжак, да бюровых працаўнікоў 27,4 прац., да творчай і тэхнічнай інтэлігенцыі 10,6 працэнтаў. Да асоб не працуючых — моладзі, пенсіянераў, стыпендыстаў, не працуючых членаў сем'яў — належыць 17,4 прац. кніжак. Апошнія 10 прац. гэта ашчадныя кніжкі гаспадароў, рамеснікаў і некаторых грамадскіх і прафсаюзных арганізацый.

### АГАРОДНІНА

Найлепш, з увагі на агародніну, развіваецца сельская гаспадарка сталічнага горада Варшавы. Найвышэйшая прадукцыйнасць з гектара, найвышэйшая якасць і найніжэйшыя цэны — характарызуюць сталічнае агародніцтва. З мікраскапійнай плошчы — няцэлых 5 тысяч гектараў — варшаўскія агароднікі даюць 14 прац. прадукцыі агародніны ўсяе краіны. Прадукцыя горада Варшавы ў гэтай галіне большая чымсьці прадукцыя разам узятых трох ваяводстваў: Люблінскага, Жэшаўскага і Кялецкага.

### АНТЭНЫ

З мэтай забеспячэння лепшых умоў прыёму радыёфанічных і тэлевізійных перадач, паднясення эстэтыкі гарадоў і змяншэння коштаў кансервацыі — Эканамічны камітэт Рады міністраў прыняў пастанову ў справе інсталявання ў шматпавярховых дамах, якія будуць будавацца пасля 31 снежня 1968 года, супольных радыёфанічных і тэлевізійных антэн.

### ПЕРАСАДКА ЛЁГКІХ

У Вроцлаўскай II хірургічнай клініцы ўжо 32 сабакам перасаджана лёгкія іншых сабак. З аперацыі выжыла 13 сабак. Апрацаваныя метады перасадкі змогуць у будучыні знайсці застасаванне пры лячэнні людзей. Рызыка аднак пры такога роду аперацыях надалей вельмі вялікае. Таму яны будуць прымяняцца толькі пры безнадзейна хворых, якім не памогуць ужо аніякія іншыя спосабы лячэння.

### ЗОЛАТА І ДОЛАРЫ

Ваяводскі суд у Гданьску разгледзеў справу 22-асабовай групы гандляроў золатам і замежнымі грашыма. Сканфіскавана ў іх 269 залатых амерыканскіх 20-доларных манет, 30 кавалкаў золата на суму 1 300 000 злотых, 5 459 долараў у банкнотах, 43 штукі розных залатых манет і шмат іншых замежных грошай на суму 831 000 злотых. Галоўная абвінавачаная — Вэраніка Ногаль з Гдыні атрымала 6 гадоў турмы, высокую грашовую кару і пазбаўлення ўсяго багацця. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ЗАКЛІК

З нагоды 25 гадавіны Людовага войска польскага і 50-ай гадавіны Савецкай Арміі Ваяводскія камітэты Фронту адзінства народа і Аховы памятнікаў барацьбы і пакутніцтва выступілі з заклікам да грамадзян Беластоцкага ваяводства, у якім, між іншым, чытаем:

«...Беластоцкая зямля ў гісторыі II сусветнай вайны мае запісаных шмат балючых і геройскіх старонак. 320 тысяч забітых, 24 тысячы замучаных у лагерах смерці, некалькі дзесяткаў спаленых і вымардаваных вёсак — вось плён панавання гітлераўскіх разбойнікаў на нашай зямлі...»

Аўтары заклiку выносяць падзяку грамадзянам Беласточчыны, школам і прадпрыемствам за апеку над магіламі і месцамі масавых расстрэлаў і адначасова заклікаюць іх да яшчэ больш актыўнай дзейнасці ў гэтай галіне, каб моладзь і старэйшыя штодзень памяталі аб тых, за цану жыцця якіх мы жывем ў свабоднай краіне.

### «КАНТРАСТЫ»

У кіёсках «Рух» паявілася ўжо шостая грамадска-культурная аднаднёўка «Кантрасты». Гэта літаратурны часопіс Беластоцкага ваяводства, які выдае Беластоцкае таварыства культуры. Знаходзім у ім вершы: Аляксея Казберука, Эдварда Ярашэвіча, Івана Чыквіна, Т. А. Маславецкага і Зофіі Струмінскай, апавяданні: Рышарда Краські, Рышарда Дэмбы і Лешка Кажушкі. Апрача гэтага «Кантрасты» друкуюць артыкулы аб турыстыцы, аб супрацоўніцтве суседніх ваяводстваў, аб выніках белавежскага мастацкага пленера. Часопіс багата ілюстраваны дасканалымі здымкамі. Шчыра заахвочваю да яго пакупкі. Пачынаючы ад гэтага года «Кантрасты» будуць рэгулярна паяўляцца кожныя 3 месяцы.

### ПАЙШЛО З ДЫМАМ

У Беластоцкім ваяводстве на працягу мінулага года пайшло з дымам усялякага дабра на суму ў звыш 46 мільёнаў злотых. У гэтай галіне займаем адно з першых месц у краіне.

### ОРМО

На Беласточчыне дзейнічаюць зараз 30 армоўскіх пляцовак, якія аб'ядноўваюць 640 членаў. У мінулым тыдні ўрачыста адзначалася ў Беластоку 22 гадавіна гэтай арганізацыі.

### У ГОНАР САВЕЦКАЙ АРМІІ

Грамадзяне Беластоцкага ваяводства ўрачыста адзначылі 50-ую гадавіну Савецкай Арміі. У Беластоку адбыўся з гэтай нагоды шматлюдны мітынг ля «Памятніка Удзячнасці» ў гарадскім парку.

### СВМ

Беластоцкая арганізацыя Саюза вясковай моладзі аб'ядноўвае 33 тысячы маладых сялян. Вясковыя арганізацыі СВМ перш за ўсё змагаюцца за культурнае і гаспадарчае развіццё сваіх вёсак. (вр)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**NIEDZIELA 3. III.**

8.25 Program dnia. 8.30 „Pamiątki architektury radzieckiej" (Leningrad). 9.00 „Małżeństwo Vidocqa" — film („Uciekinier"). 9.30 Dla dzieci: „Ptasie królestwo" (Praha). 10.00 TV Kurs Rolniczy: „Intensywne nawożenie łąk i pastwisk". 10.25 „Przypominamy, radzimy". 10.45 Program rozrywkowy. 11.45 Dziennik. 12.00 „Zawsze w niedzielę" — Turniej Miast: Karpacz — Szklarska Poręba. 14.00 „Przemiany". 14.30 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Rodzinne kłopoty ssaków" („Ula i świat"). 15.00 Mistrzostwa Świata w jeździe figurowej na lodzie (Genewa). 17.00 Teatr Niedzielny: A. Puszkin — „Gość kamienny". 17.50 „Reportaż spod Piramid" („Piórkiem i węglem"). 18.20 „Portrety" — „Stanisław Ignacy Witkiewicz" — film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Należysz do mnie" — film fab. USA. 21.20 „Siedem pieśni" — filmowy program rozrywkowy radz. 21.50 Wiadomości sportowe.

**PONIEDZIAŁEK, 4. III.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.15 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 „Kino Ptyś". 17.20 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.40 „Narty, gips, Zakopane" — film polski. 17.55 „Medale i detale". 18.20 „Eureka". 18.50 „Azymut". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Anouilh — „Eurydyka". 21.25 „Kino Krótkich Filmów". 21.55 Dziennik.

**WTOREK, 5. III.**

9.25 „Samotna walka" — film TV NRD cz. I. 10.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski — St. Wyspiański „Noc Listopadowa". 11.30 Przerwa. 12.00 Dla szkół (kl. II) „Prawda i nieprawda". 12.15 Przerwa. 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze: „Organizacja konkursu uprawowego". 13.05 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.45 i 22.20 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Latający Holender na trawersie Cap Horn". 17.30 „Nie tylko dla pań". 17.50 „24 godziny Jadwigi L." — film dok. pol. 18.05 TV Kurier Warszawski. 18.20 „Po szóstej". 19.00 „Jeden dzień prowincji Quang — Binh" — rep. filmowy z Wietnamu. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Wiem wszystko" — teleturniej. 20.35 „Samotna walka" — film TV NRD cz. I. 22.00 Dziennik.

**SRODA, 6. III.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Uwaga, uwaga — pociąg pośpieszny do Warszawy...". 10.25 „Ostatnie słowa umierającej" — film („Sherlock Holmes"). 11.15 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.40 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Pan Półka i Spółka". 17.20 Dla dzieci: „Bolek i Lolek na wakacjach" — film. 17.30 PKF. 17.40 „Telekram". 17.50 Wszechnica TV: „Naddźwiękowe samoloty komunikacyjne" („Człowiek i maszyna"). 18.20 „Knud Rasmussen" — film duński. 18.50 „Muzyka filmowa Sergiusza Prokofiewa" („Sylwetki kompozytorów"). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Ostatnie słowa umierającej" — film (Sherlock Holmes"). 20.55 „Światowid". 21.25 Studio Współczesne: St. Stanuch — „W lesie". 22.20 Dziennik.

**CZWARTEK, 7. III.**

11.55 Dla szkół (kl. VII) Język polski — Bolesław Prus: „Pałac i rudera". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Język polski — Stefan Żeromski „Ludzie bezdomni". 13.15 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.40 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 18.05 „Bryza". 18.30 „Frachtowce płyną przez Kanadę" — film Tele-Aru („Z kamerą po świecie"). 18.45 Koncert Orkiestry Radia i TV w Łodzi pod dyr. H. Debicha z udziałem solistów. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Podzwonne" — rep. film. 20.30 „Samotna walka" — film TV NRD cz. II. 21.50 Magazyn Medyczny. 22.20 Dziennik.

**PIĄTEK, 8. III.**

9.55 Dla szkół (kl. lic.) Wychowanie obywatelskie: „Panorama". 10.25 „Samotna walka" — film TV NRD cz. II. 11.45 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.30 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.15 Dla dzieci: „Dwie Dorotki" — film. 17.35 „Ulle, Ulla" — film radz. 18.00 TV Kurier Mazowiecki. 18.20 Wszechnica TV: „Inni, niż przed wiekami" („Wszechświat, w którym żyjemy"). 18.50 „Balladyna 68" — program rozrywkowy. Autor i reżyser — J. Przybora, 19.15 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Kobieta to słaba istota" — rep. film. pol. 20.15 „Lipsk — Wiosna 68" rep. z Międzynarodowych Targów w Lipsku". 20.45 Teatr TV J. C. Korzeniowski — „Wieczór z Conradem": „Freja z Siedmiu Wysp". 21.45 „10 minut recenzji" 21.55 „Doniecki dzień" — film TV („Od Bałtyku do Oceanu Spokojnego"). 22.10 Dziennik.

**SOBOTA, 9. III.**

10.00 „Gwiaździsty bilet" — film fab. radz. 11.40 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Zoologia: „Gady". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Geografia: „Wisła — rzeka polskiej chemii". 13.15 Przerwa. 13.55 Program dnia. 14.00 Sprawozdanie z Międzynarodowych Zawodów Narciarskich o Memoriał B. Czecha i H. Marusarzówny. Skoki. (Zakopane). 16.00 TV Kurs Rolniczy: „Nawożenie zbóż jarych". 16.35 Program Tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Dla każdego coś miłego". 17.45 „Gawędy wilków morskich". 18.00 „Spotkania z przyrodą". 18.25 „Tele-Echo". 19.05 „Z wizytą w Belgradzie" — film pol. 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Młynarz, syn jego i osioł" — film TV („La Fontaine wiecznie żywy"). 20.40 „Małżeństwo doskonałe" — program rozrywkowy. Reż. J. Gruza. 21.50 Dziennik. 22.05 Wiadomości Sportowe. 22.15 „Baryłeczka" — film fab. franc.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**PIĄTEK, 1.III.**

8.05 Dziennik. 8.15 Film animowany dla dzieci. 8.30 „Wśród ludzi". Film. 15.00 „Nowiny". 15.15 Dla uczniów. 15.30 Język angielski dla przedszkolaków. 16.25 „Ideowość — nasz oręż". 16.55 Teatr literacki. M. Czarot. 17.30 „Nowiny" 17.45 „Sherlock Holmes" — Iwan Tuzikow". Spektakl TV. 18.30 „Sztafeta nowin". 19.15 „Sala tańców". 19.45 „Nauka i technika". 20.00 Mistrzostwa w jeździe figurowej na lodzie.

**SOBOTA, 2. III.**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dla studentów. 9.35 Język angielski dla przedszkolaków. 10.00 „Szkatułka muzyczna". 10.20 „Wasilisa Piękna". Film. 11.40 „Reportaż sobotni". 12.00 „Szkatułka muzyczna". 13.25 Program dnia. 13.30 Reportaż filmowy. 13.45 Koncert życzeń. 14.25 „Opowiadania o bohaterstwie". 14.55 „Klub filmowy". 15.45 „Raz, dwa — i w damki". Spektakl TV. 17.00 „Ożenek Balzaminowa". Film. 18.30 „Czas". 19.00 Poczta „Płomyka". 20.00 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie.

**NIEDZIELA, 3. III.**

6.30 Dla uczniów technikum. 7.00 Gimnastyka. 7.15 „Budzik". 7.45 Dla studentów. 8.45 Dla przedszkolaków. 9.15 „Cisza". Film. I seria. 11.00 Dla żołnierzy. 11.30 „Cisza". Film. II seria. 13.20 „Nasza poczta". 13.30 „Kiosk muzyczny". 14.00 W eterze — „Młodość". 15.00 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie. 17.00 „Siedem dni". 17.30 Koncert pieśni radzieckiej. 21.00 Program baletowy z Sofii.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 111

АЛЕСЬ БАРСКІ



З рук сонца ўзялі мы песню
такую шчырую-шчырую,
яна нам рукі злагодзіла,
яна нам сэрца расшырыла,
яна нам пахне выраем.
ёю жыццё уквецім,
ёю зямлю умаім.
мы песню цёплую-цёплую
з рук маткі-сонца маем.



У грудзях маіх
трапечуцца зоркі
і іх адгалосы — ціхія рыфмы
выгарні з сэрца
зрабі пацёркі
павесь на шыю дзяўчына
і сваім цёплым маленькім вухам
маёй трывогі паслухай
а як замоўкнуць
трасі галавою
грудзьмі страпяні
і яны адазвуцца
або знімай па адной блыскотцы
і кідай у люстра крыніцы
прыйдуць туды закаханыя хлопцы
у спёку вады напіцца
выбяруць прагнымі вуснамі
зоркі
і дзяўчатам на шыях завесяць
цалуючы іх адвячоркам.

ЮРКА ЗУБРЫЦКІ




Хадзіў па лугах патрыяршай хадою
Зубрыны асілак з зубрынай сям'ёю.

У імшары гадоў да шчасця бродаў
Ішоў сцяжынкай сівабародай.

Пад залацістым купалам соснаў
Шчыра маліўся ён раніцы роснай

І, апроч сібернае завеі,
У іншыя сілы зямныя не верыў.

Ды людзі прышлі.
І зубра неўзаметку
Друкамі загналі ў бярозаву клетку.

Завезлі яго ў заморскія далі,
Сярод кіпарысаў уладкавалі.

Далі яму корму ўсялякага ўдосталь.
— Гадуйся, — сказалі. — Не дуйся за ростань.

Узяўся есці было ахвоча,
Ды сум халодны сцяў яму вочы,

А сакавітасці кіпарысныя
Іголкамі вострымі ў вочы пырснулі.

І толькі бачыць за красцістым плотам
Сытыя твары аблітыя потам.

Мяцежная думка. Апошні картэж.
Рагамі на поўнач... у Белавеж.

СЫМОН РАМАНЧУК




Ты ўжо прачнуўся, сынок?

Васік радасна ўсміхнуўся ў адказ сядзячай ля акна маці, разы два-тры пазяхнуў, і, скокнуўшы з ложачка, якое падарыла ім нейкая незнаёмая на месцы іх папярэднята жыхарства, ужо бег да акна. Заўсёды цёплыя, мілыя рукі маці абнялі яго і прытулілі да сябе.

— Ну, выспаўся, птушачка ты мая? — працягвала распытваць маці, цалуючы сына. — Ідзі, памыйся, а потым снедаць будзем. Ідзі, ідзі, ну... Марш! Татка вось-вось прыдзе... Бяжы!

Праўду сказаць, Васіку не вельмі хацелася думаць аб халоднай вадзе. Яму больш за ўсё хацелася цяпер пасядзець побач з маці. І ўсё гэта таму, што другой такой мамы няма нідзе болей, што ніхто ніколі не расказваў яму такіх цікавых казак, ніхто так не спяваў, ніхто не ўмеў нідзе на свеце шыць такіх прыгожых кашулек...

— А дзе татка? — спытаў Васік, топаючы да міскі з вадой.

— Татка наш? — спытала маці. — А ён, сыночак, да дзядзькі аднаго, чужога, пайшоў. Хлеба і бульбы нам прынясе...

Праз хвіліну-дзве адчыніліся дзверы і ўвайшоў бацька. Нічога не гаворачы, зняў шапку, павольна павесіў яе на гвоздзь і, усміхаючыся, падхваціў Васіка на рукі.

— Ну, малышка, як ты тут, брат, спаў-начаваў, га?

Васік нічога не адказаў, прыкмеціўшы, як маці, хаваючыся, уцірала слёзы. Бацька паглядзеў на яе і сказаў:

— Чаго пералякалася, Верачка? Ну, і чорт з ім, з Пакроўскім гэтым... Не даў, дык не даў. Ты толькі не сумуй, не прападзем. Толькі што Любінага мужа, Сяражу, сустрэў, да Чыжоў ехаў і да сябе жыць клікаў, а потым, кажа, і хатку якую-небудзь знойдзем... Немцы, гавaрыў, у іх рэдка бываюць...

Маці ўсміхалася сквозь слёзы сваёй прыгожай, ледзь таямнічай усмешкай.

— Ты нешта зноў плачаш, Вера?

— Жыцця з цёткай няма, Міша! — гаварыла маці. — Я ўжо зусім не ведаю, як гаварыць, як хадзіць... Мы ўсюды ёй перашкаджаем. Міша, усюды!..

Маці перарвала раптам, баязліва глянуўшы на дзверы. Не гаворачы ні слова, увайшла цётка, злая і нахмураная. Гэта была старуха год 80—85, худая, з жоўтым, як табак, тварам і рэдкімі сівымі валасамі, чалавек, які мае звычку заўсёды з'яўляцца там, дзе яго найменш чакалі і спадзяваліся. Прашалястаўшы сваёй даўжэрызнай спадніцай, яна спынілася ля шафы, дзе ляжалі нейкія кнігі, якіх ніхто ніколі, мабыць, у доме гэтым і не чытаў. Злосна ўсміхнуўшыся, яна пачала:

— Зноў пыл сцяной!.. За што, Госпадзі, мне пакаранне такое?!

Васік з бацькам маўчалі. Маці, выціраючы вочы, папрабавала было сказаць: «Няма ж там пылу, цёця! Я ж толькі што выцірала!», але цётка замахала рукамі і закрычала, быццам баючыся, што ніхто яе не пачуе, калі яна скажа гэта цішэй:

— Думаеш, калі я ўжо старая, дык мне Гасподзь зусім вочы закрыў??! Ці ж не бачу я, як Васік беспарапынна, як ураган, па пакою носіцца?!

Яна працягнула рукой па ляжачай на шафе гітары, якая папала ў гэты пакой немаведама адкуль (ніхто ў гэтым доме ніколі не іграў на ёй), і, хаця там не было аніводнай пылінкі, цётка не спынілася:

— Усё бегае, усё бегае! А кветкі як засохлі! Вось, гэты, дык зусім дайшоў! Вы б яшчэ тую, што ў калысцы, бегаць хутчэй навучылі! — паказваючы сваім доўгім, як палка, пальцам на чатырохмесячную сястрычку Васіка, якая бестурботна спала ў сваёй маленькай, пакрашанай чамусьці на зялёны колер, калысцы, працягвала цётка.

— Калі ж я не дазваляю яму шалець, вы ўжо, калі ласка, не гаварыце! — заступілася за Васіка маці.

— Не гаварыце! Калі ласка!! На вуліцу б пусціла, але хто ж тут дадумаецца?!..

— А ў чым яго пусціць? Усё згарэла, вайна наўкола...

— Для ўсіх вайна, кару ўсім Гасподзь паслаў, не табе адной!.. Для мяне, думаеш, лёгка? А вось, не скарджуся, не плачу... А кнігі, кнігі як ляжаць. Госпадзі! — зноў за сваё ўзялася яна.

— Яны заўжды тут так ляжалі! — ціха сказала маці.

— Адказ, мілая, быццам бы ты раней падрыхтавала! Дазволь, гэта я ўжо ведаю, як яны дагэтуль тут ляжалі!..

Абгледзеўшы ўсё, яна было ўжо сабралася адыходзіць, ды ўспомніўшы пра Васікавага бацьку, накінулася на яго.

— А ты што маўчыш? — зашыпела яна. — Ты чаго маўчыш? Калі ты галава сям'і — глядзець трэба было б, што робіць гэта самая сям'я! — і грохнуўшы дзвярыма, скрылася ў сваіх пакоях.

Маці не пераставала плакаць.

— Паедзем, Міша! Хоць на вуліцу! Паедзем, дарагі, сілы больш не хапае! То ж зладзейкай назвалі мяне!..

— Калі?! — пабялеўшы закрычаў бацька, — ты чаго маўчыш, Вера?!

— Ды прыходзіць учора Аўгіння і кажа:

«Аддай па-добраму, па-харошаму, палатно з камоды. Аддай, калі жыць на белым свеце хочаш!» Я задрыжэла ўся, узмалілася: «Пакарай, Уладычыца, Царыца Нябесная, калі хоць у думках было ў мяне такое!» Яна ж, Аўгіння, працягвае: «Няма чаго табе, зладзейка, Божай Маці маліцца! У Яе і без цябе спраў многа!»

— Што ж ты маўчала? — перабіў яе бацька.

— А чаго ўжо там? Біцца з імі будзеш? Іх дом, ім і падпарадкоўвацца трэба, цётцы і дачцы... Куды ж мы цяпер? Вайна, голад наўкола, куды ўжо нам!..

Маці махнула рукой і пачала накрываць стол. Але бацька быў ужо ў цёткі на кухні.

— Вось што, дарагая цётка, сваячка мая дарагая і ты, Аўгіння, дзева старая! Калі вы людзі — людзьмі будзьце! А не — трэба будзе расквітацца! І не маркамі плаціць будзеце, так і ведайце!

— А за што плаціць прыкажаш?

— А хаця б за тое, што дроў навазіў, а ты, старая скрага, аддала солтысу свайму любімаму! Хаця б за гэта! Мала?

— Дзверы бачыш? — зараўла цётка. — Бачыш?..

Але бацька не даў ёй дагаварыць.

— Табе паказаць дзверы трэ' было б, чорная твая душа! Ты гэта ўсюды пыл бачыш, усюды свой гарбаты нос садзіш! Веру, вось, зладзейкай абазвала, а сама ў сундук палатно прыхавала!.. Усё бачыш, а таго не дагледзела, што хлеба ў нас няма. Я, аднак, ты не думай, не з жальбой прыйшоў да цябе! Сказаць я прыйшоў, што хоць і цётка ты мне, а ўсё ж падлюта самая што ні ёсць найбольшая! Праваняла ўся сваімі грашыма, а ўсё скупуеш, ненасытная ты вантроба!..

Бацька грохнуў дзвярыма, але зноў іх з гукам адкрыў і голасна прыгразіў:

— І не асмельвайся прыходзіць пыл спраўджаць! Не дай Бог, ахну па макушцы, дык свае нажышчы кастлявыя выцягнеш у тую ж хвіліну! Запамятай гэта, запамятай гэту хвіліну, цётка! Ды і ты сястрыца сказанне гэтае запамятай, ты таксама добрая птушка!..

Маці з Васікам заціхлі, прытаіўшы дыханне, а бацька пайшоў кудысьці на вуліцу. У доме запанавала маўчанне, мабыць, першы раз пасля з'яўлення цёткі ў гэтым прыгожым са шкляным ганачкам будынку. Не было чуваць бесперапыннага барматання цёткі, не было відна яе свідруючых вачэй, толькі гадзіннік ціха цікаў, ды недзе на вуліцы выў сабака.

За акном заскрыпеў снег, а праз хвіліну з кухні данёсся нейкі шум, і дзверы ў пакой адчыніліся. Не прывітаўшыся, увайшоў солтыс, рыжабароды, высокі чалавек, без слова сеў на крэсла і пачаў аглядаць усё ў пакоі.

— Дык вы, гэтае, і ёсць тыя бежанцы, — ні то пытаючы, ні то сцвярджаючы кімсьці сказанае, прамармытаў ён, гледзячы недзе ў вугал. Маці, паралеканая да рэшты з'яўленнем солтыса, маўчала, не ведаючы, як быць ёй і што рабіць. За акном, аднак, паказалася знаёмая постаць бацькі і яна, з палёгкай уздыхнуўшы, сказала:

— Калі вы да мужа, дык ён ужо ідзе...

Барадаты не адказаў. Не паспеў бацька замкнуць дзверы, як солтыс прабасіў.

— Штой гэта ты, Міхась, з цёткай не ў ладах? Гэта як жа я разумець, тлумачыць маю, га? Скардзіцца яна безупынна на цябе, а табе, як бачна, і справы да гэтага няма.

— Ну, хаця вы і солтыс у вёсцы, а месца ваша, здаецца мне, і не тут зусім...

— Здаецца! Не месца! Іш ты, гаварун! Тут яно, месца маё, тут, галубчык! Усюды тут маё месца! А хто забывае, — вочы яго забліскалі злым, нядобрым агнём, — мы, гэтае, прыпомніць, гэтае, можам!.. Так вось!..

— Можам, так? Можам??! — бацька нават пачаў падходзіць да солтыса, але той сядзеў, быццам і не бачыў, што робіць бацька. — Пералякаць хочаш? У Германію адправіць фрыцаў карміць? Ты бы цётку, вось узяў, яна страшней Германіі, яна злейшая, чымсьці ўсе Курты і Гансы! Яе ў Германію вазьмі, яе, праз гадзіну сяброў сабе дабудзе!...

Маці старалася спыніць яго, але надарэмна.

— І скажы ёй, солтыс, што стаяць пад дзвярыма небяспечна, скажы абавязкова!..

Тут жа дзверы адчыніліся і цётка, як на крыллях, уляцела ў пакой.

— Што ж ты сядзіш, Пятро, што сядзіш? Няўжо чакаеш, калі за шыварат схопіць?! Страляць іх усіх трэба! Усіх, усіх, усіх! — крычала, адзічэўшы, цётка!

— А ты супакойся, чуеш? — толькі цяпер зварухнуўся з месца солтыс. — Яго мне баяцца? Верабей, гэтае, таксама на кошку чырыкае, ды сілы, гэтае, няма! Так вось! — закончыў ён.

— Міша, апамятайся, Бог з табою! — закрычала раптам маці і павісла ў яго на руцэ, у якой ён трымаў да нядаўна стаяўшую на стале скаварадку. — Апамятайся, Міша, мілы, ну, апамятайся ж! Ты разумееш, што ты зрабіць надумаўся?!..

Бацька, моўчкі, сеў на крэсла. У пакоі чуліся заціхаючыя крокі солтыса, плач маці і ціхі голас бацькі:

— Ты, Вера, пільнуй мяне, а то я, чаго добрага, і заб'ю яе калі-небудзь...

— Будзе табе, хопіць! Выехаць мы павінны, Міша! Хоць на сваё пажарышча, хоць у чыстае поле!.. Каня не знойдзеш, пяшком пойдзем!..

Праз паўгадзіны вярнуўся бацька з канём. Радасці маці, здавалася, і канца не будзе. Яна, быццам, памаладзела, пасвятлела! Цяжкая дубовая брама закрылася. Яны ехалі ў другую вёску. Што іх чакала там, якія людзі, якія выпрабаванні — яны не ведалі. Важна цяпер было толькі адно — яны ўжо ніколі не павінны былі думаць аб цётцы, яе штохвілінных прыходах, яе доме з прыгожым шкляным ганкам.

# АМАТАРЫ

**Сёння даем першую публікацыю з трохадрэзкавага цыкла «Аматары». Выкарыстоўваем тут цікавы матэрыял, які быў тэмай апошняй сесіі Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку.**




Аддзел культуры Прэзідыума ВРН у Беластоку і Ваяводскі дом культуры вядуць адзіную культурную палітыку ў ваяводстве. Таму яны не маюць асобных спіскаў аматарскіх мастацкіх гурткоў, ні беларускіх, ні іншых. Гэтыя ўстановы прадстаўляюць дадзеныя аб усіх аматарскіх мастацкіх гуртках у паасобных паветах, дзе пражываюць нацыянальныя меншасці. Дадзеныя іх паказваюць, што ў паветах, дзе пражываюць нацыянальныя меншасці мастацкі аматарскі рух развіваецца лепш, чым у іншых паветах ваяводства.

*

Характэрная рыса аматарскага руху — яго зменнасць: гурткі ўзнікаюць і хутка гінуць, часам назаўсёды, часам на нейкі час каб потым адрадзіцца. Аматарскі рух залежыць у многім ад таго, ці знойдзецца нехта, хто захоча ўпарта працаваць з гуртком, ад таго, ці ёсць, і колькі ёсць, моладзі ў вёсцы, ці нехта хоць крыху вёсцы паможа.

Паводле дадзеных з нацыянальных таварыстваў, колькасць і профіль аматарскіх гурткоў сярод паасобных нацыянальных меншасцей бывае розны. Напрыклад, сярод літоўцаў змяняецца ў апошнім часе профіль аматарскага руху. Калі да 1960 года пераважалі тут драматычныя гурткі, то зараз перавагу здабываюць іншыя: вакальныя, танцавальныя.

### ЯК СПРАВА ВЫГЛЯДАЕ Ў БЕЛАРУСАЎ?

Беларускае грамадска-культурнае таварыства не вядзе пераліку ўсіх мастацкіх гурткоў, якія працуюць у беларускім асяроддзі. Апякуецца яно толькі тымі, якія працуюць пры гуртках БГКТ, або супрацоўнічаюць з таварыствам. Паводле такога пераліку ёсць у Беластоцкім ваяводстве 65 гурткоў з 743 удзельнікамі, у тым ліку 21 палякаў. Сярод тых 65-ці гурткоў — драматычных аж 61 і 4 харавых. Найбольш мастацкіх гурткоў мае Бельскі павет — 25, найменш Беластоцкі — 4. У Гайнаўскім ёсць — 18, у Сакольскім — 5.

**Здаецца, што ў беларусаў замала ўвагі прысвячаецца прафіляванню аматарскага руху. Аматарскія гурткі ўсё больш адыходзяць і хочуць адыйсці ад традыцыйных форм, якімі з'яўляюцца драматычныя гурткі. Іх зацікаўленне кіруецца да аматарскай эстрады, інструментальных і вакальных гурткоў, таксама і да фатаграфавання, аматарскага фільму і жывога слова. Гэтую праблему павінна бачыць як адміністрацыя культуры, ВДК і ПДК, так і нацыянальныя таварыствы. Распрацоўка гэтай справы наблізіла б аматарскі рух да норм сучаснага жыцця. Здаецца, што абмяжоўванне аматарскай самадзейнасці да драматычных гурткоў вядзе да збяднення і завужэння культурнай працы наогул. Формай мастацкай творчасці з'яўляецца ў беларусаў таксама народнае ткацтва, гафты, вышыўкі, саламянкі, кашы і г.д. З болем трэба сцвердзіць, што ніводнае з нацыянальных таварыстваў у справаздачных матэрыялах для Нацыянальнай камісіі не ўспамінае аб гэтых формах аматарскага руху. Здаецца, што на гэтую галіну мастацкай творчасці ў будучыні трэба звярнуць значна больш увагі.**

### ЛЮДЗІ

Ваяводскі дом культуры, як і праўленні таварыстваў, выражаюцца згодна, што кіраўнікі мастацкіх гурткоў з'яўляюцца аматарамі без ніякай падрыхтоўкі. Гэта людзі, якія толькі дзякуючы асабістым захапленням і заангажаванню вядуць у сваім асяроддзі карысную працу з аматарскім рухам. Гэта пераважна настаўнікі, кіраўнікі святліц, бібліятэкары, гаспадары. Ані таварыствы, ані рады нарадовыя ў паасобных нацыянальных асяроддзях не маюць кваліфікаваных інструктарскіх кадраў. Таксама трэба сказаць, што ані нацыянальныя таварыствы, ані ваяводскія і павятовыя дамы культуры, ані павятовыя інструкцыйна-метадычныя пункты не маюць кадраў, якія б спецыялізаваліся, па праблемах аматарскага мастацкага руху для нацыянальных асяроддзяў. Выканаўчыя органы рад нарадовых, гэта значыць, аддзелы культуры, таксама такіх інструктараў не маюць і наогул не вядуць інструктажу па сутнасці культурна-асветнай дзейнасці і аматарскага руху, бо гэта не прадбачыцца ў іх працы.

(Аб іншых аспектах аматарскага руху працяг будзе).

---

слоўнага выяўлення, пры дапамозе якога можна было б яе пераказваць гэтым масам, не мела сваёй скадыфікаванай формы.

Такім чынам на грунце ўсходняга хрысціянства сфармаваліся дзве, як быццам бы зусім ад сябе незалежныя, плошчы рэлігійнай свядомасці. З аднаго боку былі гэта выказванні містыкаў і настаўнікаў праваслаўя, а з другога боку — народнае праваслаўе, якое было па сутнасці народнай дахрысціянскай культурай, якая ўключала ў сябе пэўныя элементы хрысціянства, як эмблемы этнічнай свядомасці. Народ быў заўсёды прывязаны да спраў, якія ў святле выказванняў айцоў праваслаўя былі зусім другапланавымі: да старога каляндарнага стылю, да царкоўнаславянскай мовы, да формы і знешняга ўпрыгожвання цэркваў, да багатай рэлігійнай абрадавасці. Паміж гэтымі дзвюма плошчамі не знойдзена дарог паразумлення.

**Ул. Паўлючук**

1. Маем перад усім на думцы кніжкі: Bizancjum, Warszawa 1964; P. Ewdokimow: Prawosławie. Warszawa 1964; Zernow: Wschodnie chrześcijaństwo. Warszawa 1967.

2. Артыкулы на тэму праваслаўя змяшчаюць перад усім каталіцкія часопісы „Znak” і „Więź”.

# ХТО КУДЫ ІДЗЕ ВУЧЫЦЦА

У апошніх класах пачатковых школ аб гэтым думаюць ужо ад восені. Аднак, асабліва шмат разважанняў адбываецца цяпер, а найбольш увесну — перад самымі экзаменамі ў сярэдніх школах.

Характэрнае, што ў вясковых школах значная частка вучняў, нярэдка, нават палова не мае намеру ісці вучыцца далей, у сярэднюю школу. У мястэчках ідуць вучыцца далей амаль усе, найчасцей, усе да аднаго.

Напрыклад, восьмы клас у пачатковай школе ў Саках, Гайнаўскі павет, налічвае 17 вучняў, сярод якіх толькі дзевяць вучняў мае намер паступіць у сярэднія школы: 2 у Беларускі ліцэй і 7-х у прафесіянальныя школы, пераважна тыпу «кваліфікаваны работнік». Традыцыйна ўжо, не толькі ў Саках, у ліцэй выбіраюцца дзяўчаты, хлопцы не.

А ў суседнім мястэчку Кляшчэлі? У тамтэйшай школе ў мінулым навучальным годзе восьмы клас налічваў 19 вучняў, з чаго 7 вучняў паступіла ў агульнаадукацыйныя ліцэі, беларускія і польскія, 5 вучняў паступіла ў тэхнікумы, пераважна ў Эканамічны тэхнікум. Рэшта паступіла ў прафесіянальныя школы, пераважна ў прафесіянальную чыгуначную. Пайшлі вучыцца далей усе, так ужо ад пяці год.

У гэтым годзе кляшчэлеўскі восьмы клас значна большы, 30 вучняў. Куды выбіраюцца ісці вучыцца? У блізкія павятовыя школы. Асартымент школ, выбраных імі, наступны: Эканамічны тэхнікум, Медыцынскі ліцэй, Прафесіянальная чыгуначная школа, ліцэі. Цікава зазначыць, што ў польскія і беларускія агульнаадукацыйныя ліцэі паступае амаль па роўнай колькасці вучняў. Дакладней кажучы, вучаніц.

З вышэй сказанага няцяжка заўважыць, што моладзь усё такі найбольш ахвотна вучыцца ў недалёкіх школах. Вядома, звязана гэта з матэрыяльнымі магчымасцямі, вялікай канкурэнцыяй у гарадах, але не толькі. Вучань у сваім асяроддзі найлепш чуецца.

(ся)




### УСМЕШКІ МАЦІ

Ніколі не будзе сапраўдным, высакародным чалавекам той, хто з дзяцінства не ўмеў быць добрым сынам, пяшчотнай дачкой.

Падумай толькі, як многім абавязаны ты сваёй маме!

Колькі бяссонных начэй правяла яна над тваёй калыскай, калі ты быў яшчэ маленькі! Колькі клапацілася яна, пакуль ты падрос! Ды і зараз, напэўна, нямала турбот прыносіш ты ёй. Яна ж гатова ахвяраваць усё, абы-толькі табе было добра.

А ці заўсёды ты цэніш яе любоў да цябе!

Успомні, колькі разоў дарэмна хвалявалася яна, калі, засядзеўшыся ў гасцях, ты не прыходзіў у час дадому! Калі б ты бачыў, якой трывогай напаўняюцца тады яе вочы, як насцярожана прыслухоўваецца яна да кожнага кроку на лесвіцы, ты б заўсёды стараўся вярнуцца своечасова або як-небудзь папярэдзіў яе аб сваім спазненні.

Няўжо ўся яе любоў да цябе не варта такой маленькай увагі?

Ты спакойна спіш, а яна да позняй ночы сядзіць, схіліўшыся, з іголкай і цыруе твае панчохі або стаіць над начоўкамі і мые твае кашулькі.

Няўжо табе не хочацца таксама зрабіць што-небудзь, каб адказаць на яе клопаты?

Пачні з малога. Ідучы з ёю па вуліцы, не давай ёй несці цяжкую кашолку, а паднясі яе пакупкі сам. Калі яна прыходзіць дадому, дапамажы ёй зняць паліто, прынясі пантофлі. Калі яна ўпусціць з рук ножны, напарстак, хустачку — падымі і падай.

Старайся часцей хоць чым-небудзь дапамагчы ёй па гаспадарцы. Калі няма водаправода — прынясі вады, калі ацяпленне пячное — насячы дроў, дапамажы падмесці пакоі, выцерці пыл. Ды і сам не смяці дарэмна, каб ёй не трэба было лішні раз прыбіраць.

Табе ўсё гэта, магчыма, здаецца дробяззю. Але ты не ўяўляеш сабе, якой вялікай радасцю будзе для яе любая ўвага з твайго боку. Як яна будзе ганарыцца, што ў яе такі ўважлівы сын, такая клапатлівая дачка!

Але ніколі не злоўжывай яе любоўю.

Не ведаю, як для цябе, а для мяне гэтае самае агіднае, калі я ў аўтобусе або ў тралейбусе бачу, як здаровы хлапчук або чырвонашчокая дзяўчына сядзіць, разваліўшыся, на «дзіцячым» месцы, а стомленая маці стаіць побач, ды яшчэ трымае ў кожнай руцэ па кашолцы з прадуктамі.

Маці не вельмі вінавата. Для яе ты заўсёды застаешся маленькім і слабым, і ёй хочацца, каб табе было як найлепш, а аб сабе яна не думае.

Але ў гэтым выпадку павінен паказаць характар і пасадзіць яе на месца, як бы яна ні пярэчыла.

І ўжо ніколі не лянуйся пісаць ёй пісьмы з лагера. Калі б ты мог убачыць, якое для яе шчасце кожны напісаны табою радок, з якой гордасцю будзе яна паказваць тваё пісьмо суседкам, — ты пісаў бы ёй кожны вечар.

**А. Дарахаў**

З кнігі «Гэта варта запомніць»

1. Аб якіх абавязках у адносінах да маці гаворыць аўтар у творы?

2. Чаму мы павінны шанаваць сваіх бацькоў?

3. Раскажыце, як вы святкуеце дзень жанчын і дзень маці.

*

Шануй бацьку з маткаю: другіх не знойдзеш.

# НЕАБХОДНА РАШЫЦЬ

Адной з найбольш балючых спраў зараз, а звязаных з беларускім школьніцтвам у Польшчы, ёсць справа літаратуры і навуковых дапаможнікаў да навучання беларускай мовы. Балючая гэтая справа не ад сёння. Але паколькі былі больш капітальныя справы, з падручнікамі, гэтая справа адсунулася нешта ў цень. Гавару «нешта» таму, што кожны год яна паўтараецца: аб недахопе пішуць у справаздачах зацікаўленыя аддзелы ўнутраных спраў ПРН, пры кожнай аказіі аналізуе і дае адпаведныя ўказанні нацыянальная камісія ВК ПАРП і безумоўна пра беларускую літаратуру для школ дабіваецца Галоўнае праўленне БГКТ. Ёсць рад іншых устаноў у Беластоку, якія за гэтую справу змагаюцца. Шчыра кажучы, змагаюцца толькі за літаратуру, таму што аб якіх-небудзь навуковых дапаможніках для навучання беларускай мовы ніхто дагэтуль не падумаў. Штопраўда, былі галасы некаторых настаўнікаў, але іх ініцыятыву пачаць з вучнямі рабіць найпрасцейшыя дапаможнікі, ніхто дагэтуль не падтрымаў. Ды і хто мае падтрымаць, калі ў Акруговым метадычным цэнтры зліквідавана штат метадыста беларускай мовы, штат, які хіба быў надта патрэбны ў сувязі са спецыфічнымі цяжкасцямі беларускага школьніцтва і вялікай колькасцю школ. Дык пакіньма дапаможнікі.

Як сказана вышэй, многія камісіі і калектывы аналізавалі справу недахопу беларускай літаратуры ў школьных бібліятэках, але фактычнага стану ніхто, або амаль ніхто не ведаў. А справа ў некаторых школах выглядае не толькі крытычна, але трагічна. Як прыклад прывяду Гайнаўскі павет, дзе на **77** пачатковых школ беларускай мовы дзеці вучацца ў **72** школах (у тым 1 ліцэй). У гэтым жа павеце аж 11 **школ, дзе навучаецца бел. мова, не мае беларускай літаратуры.** Вось што піша кіраўнік школы ў **Міклашэве:** «У бібліятэцы (школьнай — А. К.) зусім няма кніжак да чытання на беларускай мове». Пачатковая школа **№ 4 у Гайнаўцы (Гурнэ)** піша: «Інфармуем, што тутэйшая школа не мае ніякіх навуковых дапаможнікаў і таксама бібліятэчных кніжак, а падручнікі ўсе вучні маюць» (да бел. мовы — А. К.). І яшчэ адзін прыклад з пачатковай школы ў **Ялёнцы:** «У школьнай бібліятэцы няма кніжак да чытання і навучання на беларускай мове. Школа пазычае іх з іншых бібліятэк». Да гэтых фактаў каментарый хіба нікому не патрэбны?

Каб бачыць і лепшыя бакі гэтай праблемы, трэба дадаць, што ёсць школы добра (?) абяспечаныя ў беларускую літаратуру. Ёсць 6 школ, якія налічваюць у сваіх бібліятэках ад 106—270 бел. кніжак. Толькі зноў трэба ведаць, што няма тут чым хваліцца, таму што дзіцячай, патрэбнай літаратуры, вельмі мала, а якая і ёсць, дык прастарэлая. Апошнія кніжкі — гэта або зусім аджылая літаратура (і то не для дзяцей), або добрая, але выключна для ўзрослых і падрыхтаваных да яе чытання. Адным словам, прыдатнасць гэтай літаратуры выклікае сумненні. Зацікаўленым (перш за ўсё настаўнікам), якія часта задаюць пытанні «Калі будуць бел. дзіцячыя кніжкі ў школьных бібліятэках?», магу толькі сказаць, што Беластоцкая куратoрыя школьнай акругі выступіла з адпаведнымі прапановамі ў Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі, адкуль адказу яшчэ няма. Паколькі гэтая справа надта доўга працягваецца, «Ніва» прылучаецца да голасу пытаючых і з нецярплівасцю чакае адказу з Міністэрства просячы адначасова ўзяць пад увагу прыведзеныя вышэй прыклады.

Другая справа датычыць несправядлівага, на маю думку, падзелу грошай на пакупку кніжак у школьныя бібліятэкі. Зараз справа маецца так, што аднолькавую суму на пакупку кніжак атрымліваюць школы, дзе навучаецца бел. мова і тыя, дзе яе няма. У такім выпадку, калі школа хоча купіць нейкія беларускія кніжкі ў бібліятэку, мусіць гэта рабіць коштам пакупкі польскай літаратуры, у якую беларускія школы таксама павінны быць абяспечаны не ў меншай ступені. Паколькі гэтая справа таксама знаходзіцца ў «руках» вышэйшых улад, трэба было б яе магчыма хутка выясніць.

**А. Карпюк**

 

# ЧАКАНОЎСКІ АБ НАШАЙ ПРЭГІСТОРЫІ

У 1967 годзе выйшла ў свет кніжка «Człowiek w czasie i przestrzeni» Яна Чаканоўскага, польскага вучонага сусветнай славы (памёр у 1965 г.). Гэта яго апошняя кніжка, у якой падсумаваў сваю навуковую дзейнасць, дасягненні.

У гэтай кніжцы знаходзім звесткі аб прэгісторыі нашых земляў і аб паходжанні беларускага насельніцтва. На стар. 190 чытаем:

«Дадзены тут сінтэтычны пераказ пераўтварэнняў антрапалагічна-этнічных адносін у прыбалтыйскай зоне абгрунтаваны на дапушчэнні, што ўспамінаемае Герадотам племя неўраў з'яўлялася першай фармацыяй усходніх балтаў. Большасць мовазнаўцаў лічыць іх проста балтамі. Толькі Шафаржык і будучыя пад яго ўплывамі чэшскія і польскія славяназнаўцы лічаць іх славянамі. Найбольш праўдападобным з'яўляецца аднак тое меркаванне, што размаўлялі яны яшчэ неразрозненай балта-славянскай мовай, слядамі якой з'яўляюцца назвы Нур і Нурэц на Падляшшы, на тэрыторыі іх гістарычнай айчыны, што захаваліся да нашых часоў у аславяненым выглядзе. Назва іх запісана ў сваім першабытным выглядзе — неўраў. У сувязі з тым, што паводле Герадота меліся яны выступіць з паўднёвых перыферый Палесся ў паўночнай пушчы, з'яўляецца вельмі праўдападобным, што пасля таго, як вырушылі са сваёй падляшскай айчыны прыбугскім шляхам у паўднёвым напрамку, абыйшлі балоты Палесся ад поўдня і прасунуліся прыдняпроўскім шляхам на поўнач. Пазнейшыя старажытныя аўтары ўпамінаюць пра іх ужо ў верхнім басейне Дняпра, у зоне размяшчэння першабытных сядзіб усходніх балтаў»... (прашчураў літоўцаў і латышоў — к.я.)

Пішучы аб прычынах з'яўлення славянскага насельніцтва на даўніх землях неўраў Чаканоўскі, між іншым, сцвярджае:

«Награмаджаная нашэсцямі турэцкіх і мангольскіх качэўнікаў хваля бежанцаў заліла тады ўсходняе Прыкарпацце аж па Сан і глыбока ўціснулася ў паўночна-заходнім напрамку, як пацвярджаюць гэта вынікі дыялекталагічных доследаў насельніцтва Бельск-Падляшскага павета. Тады, менавіта, усталявалася на цэлае тысячагоддзе польска-руская этнаграфічная граніца»... (стар. 216). Чаканоўскі мае на ўвазе апошнія стагоддзі першага тысячагоддзя нашай эры. Лічыць ён, што ўсходнеславянскае насельніцтва — гэта скрыжаванне славян з першабытнымі тут лапона-фінскімі плямёнамі, перад усім, культурная асіміляцыя тых плямёнаў. Скрыжаванне адбывалася пазней і доўга.

Гаворачы аб насельніцтве на поўнач ад Нарвы і Супраслі Чаканоўскі піша на стар 195:

«Найбольш выразна рэлікты ятвяжскага насельніцтва відавочны на тэрыторыі паветаў Саколка і Аўгустова. Асабліва павет Саколка адрозніваецца высокімі працэнтамі нардычнага элементу і нізкімі лапонаідальнага. Іншыя часткі Падляшша ў антрапалагічных адносінах былі моцна пераўтвораны ў выніку прыплыву польскіх і рускіх каланістаў. Так, напрыклад, Бельск-Падляшскі і Белавежа навязваюць ужо непасрэдна да Палесся»...

Гэтыя словы напісаў Чаканоўскі ў каментарыі да табліцы антрапалагічных даных, з якіх вынікае, што насельніцтва Сакольшчыны ў сярэднім мае 61.5 працэнта нардычнага элемента, а Бельшчына — 33,0%. Як вядома, ваколіцы цяперашняй Сакольшчыны былі пагранічнымі пушчамі заходнебалтыйскага племені ятвягаў, пабрацімаў прусаў, заваяваных крыжаносцамі ў XIII ст. Ваколіцы прусаў былі канчаткова анямечаны каля 1700 г. Цэнтральную Ятвягію — ваколіцы цяперашняй Сувальшчыны — крыжаносцы вынішчылі.

**К. Янкоўскі**

## БЕЛАРУСКІЯ ЭЛЕКТРАЛЯМПЫ



У Брэсце будуецца адзін з найбольшых у Савецкім Саюзе электралямпавы завод. Прадпрыемства ўжо выпусціла партыю электралямпаў. На здымку: праверка электралямпаў на выпрабавальным стэндзе.

## ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

### МЫЦЦЁ НЕЙЛОНУ

Ніколі не мыйце разам рэчы з белага і каляровага нейлону: статычная электрычнасць, якая ў ім знаходзіцца, выцягвае фарбу з тканіны.

Вось правілы мыцця рэчаў, якія не прасуюцца: не замачвайце іх на доўгі час; не апускайце ў гарачую ваду; моцна не намыльвайце; асабліва старанна палашчыце; развешваючы, зашпіліце на ўсе гузікі, кнопкі, маланкі.

Высушаныя сукенкі, якія трэба прасаваць, неабходна папырскаць вельмі гарачай вадой, і развесіўшы на плечках, накрыць зверху прасцінай. Праз дзве гадзіны сукенку можна прасаваць.

### ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

...паводле даных заходнегерманскай статыстыкі, самым небяспечным заняткам з'яўляецца... хатняя гаспадарка. Палавіна ўсіх няшчасных выпадкаў выклікаецца неахайнасцю ў абыходжанні з газам і электрычнасцю ці няспраўнасцю прыбораў.

...самы дзіўны рытуал грамадзянскага шлюбу існуе на востраве Ява. Маладыя людзі, якія жадаюць злучыць свой лёс, акрамя выканання звычайных фармальнасцей, павінны прад'явіць мясцовай адміністрацыі 25... пацуковых хвастоў. Пры скасаванні шлюбу спаганяецца больш высокая плата — цэлыя 40 хвастоў! Такі парадак грамадзянскімі ўладамі вострава ўведзен з мэтай барацьбы з незлічонымі полчышчамі пацукоў, якія наносяць значную шкоду плантацыям рысу.

## Народны Каляндар

З Аўдоцці пагодна — усё лета прыгодна.

У сакавіку туман, дык у жніва дожджык пан.

Якая другая палавіна сакавіка — такая першая палавіна красавіка і лета.

## Водгук сярэдневякоўя

Адна з кур'ёзных старажытных традыцый, што ўсё яшчэ захоўваецца ў Англіі, заключаецца ў назначэнні афіцыяльнага паэта пры каралеўскім двары — так званага паэта-лаўрэата. Прыдворны паэт, які назначаецца пажыццёва, піша вершы, напрыклад, пры нараджэнні дзіцяці ў каралеўскай сям'і або з прычыны шчаслівага вяртання манарха з зарубежнай паездкі. (Вядома, паэт сцвярджае, што ён піша не па заказу, а па ўласнаму натхненню, якое навеяна яму «высокай» тэмай).

Нядаўна пасля смерці Джона Мейсфілда гэта пасада стала вакантнай. І вось аб'яўлена новае назначэнне. Выбар паў на Сесіла Дэй-Льюіса, які займаў у 1951—1956 гадах пасаду прафесара паэзіі ў Оксфардскім універсітэце. У свой час Дэй-Льюіс быў школьным настаўнікам, а затым дырэктарам аднаго з выдавецтваў. Ён вядомы не толькі як паэт, але і як аўтар дэтэктыўных раманаў, якія публікуе пад псеўданімам «Ніколас Блейк».

## АЭРАПОЕЗД



**У Францыі праведзены доследы поезда, які лунае на паветранай падушцы над адной рэльсай. Хуткасць гэтага поезда каля 375 кіламетраў на гадзіну. Для тармажэння выкарыстоўваецца спецыяльны парашут.** (а-ка)




### ЧАСТКА ДРУГАЯ

Холад прывёў Карцава да прытомнасці. Цяжар сціскаў грудзі. Задыхаючыся, ён адкрыў рот, і ў горла лінулася салёная вада. Ён шалёна пачаў працаваць рукамі. Хутчэй, хутчэй!.. Адчуваючы, што лёгкія гатовы лопнуць ад напружання, ужо ахоплены канвульсіямі задышкі, ён з апошніх сіл рваўся наверх. Яшчэ міг, і, аглушаны свежым паветрам, шумам мора, Карцаў закруціўся на хвалях.

Апамятаўшыся, ён аглядзеў зрытае ветрам мора. Карабля не было. Толькі далёка мільганула разбітая шлюпка. Мільганула і скрылася.

Штосьці заставіла яго азірнуцца. Ён убачыў: расплюскваючы хвалі, усплывае нямецкая падводная лодка.

Не зводзячы з яе вачэй, ён зрабіў некалькі глыбокіх удыхаў, апусціўся і пад вадою паплыў убок. Вынырнуўшы і глытнуўшы паветра, ён зноў пайшоў пад ваду і скінуў спярша кіцель, затым боты і нагавіцы. Калі ён з'явіўся на паверхні трэці раз, да варожай лодкі было метраў сто. Яна разварочвалася ў яго бок. Тады Карцаў нырнуў і паплыў насустрач, разлічваючы, што лодка пройдзе зверху, ён акажацца ў яе за кармою, згубіцца сярод хваляў. Бераг быў недалёка, міляў пяць. Ён не сумняваўся, што дабярэцца да сушы. Каб толькі не прыкмецілі!

Здарылася інакш. Усплыўшы, ён убачыў: лодка побач, і з яе спускаюць шлюпку. Карцаў зразумеў: яму не выратавацца.

Некалькі мінут назад быў бой, кароткі і бязлітасны. З туману, які ад раніцы закрыў і неба і мора, нечакана выскачыў варожы тральшчык. Немцы разгубіліся, маракі савецкага старажавіка таксама. Пасля секунднай замінкі міма Карцава пранёсся камендар. Развярнуўшы насавую гармату, ён усадзіў снарад у ворага. Трапіў, відаць, у боезапас — асляпляльная ўспышка скрыла германскі карабель, а ўзрыўная хваля так кінула савецкі карабель, што той лёг бокам.

Апошні, каго бачыў Карцаў на палубе свайго старажавіка, быў боцман з выцягнутай рукою ў мора. Боцман першы прыкмеціў тарпеду, але было ўжо позна...

А шлюпка набліжалася.

Карцаў развітальным позіркам абняў крытыя хвалі, выдыхнуў паветра з лёгкіх і — апусціўся.

Над галавою Карцава механізмы. Перагародкі падрыгваюць. Ложка, у якім ляжыць Карцаў, таксама. Ён у чэраве германскай падводнай лодкі, якая плыве невядома куды.

Ахоўвае яго той самы матрос, што сядзеў на вёслах у шлюпцы. Ад яго Карцаў даведаўся падрабязнасці свайго паланення. На лодцы думалі, што ён з германскага тральшчыка, таму стараліся. Матрос скочыў за ім, знайшоў на глыбіні, ужо калі Карцаў страціў прытомнасць.

Адкачвалі Карцава доўга. Якое ж было расчараванне падводнікаў, калі ён назваў сябе! Не хацелі верыць. Дык ён дасканала гаворыць па-нямецку. Да таго ж у яго на руцэ выкалата «Ханс». Так называўся школьны сябра Карцава. Яны вырашылі стацца пабрацімамі. Карцаў выкалаў Хансу «Кірыл», а той яму — сваё імя па-нямецку.

Відаць, ён зрабіў промах не зглуяўшы на памылцы немцаў. Ачуняўшы, ён хацеў вырвацца з рук тых, хто яго трымаў. Быццам можна выратавацца са сталёвага пудэлка, якое са ўсіх бакоў акружана вадою!..

І так, трынаццаты дзень палону. Кормяць палоннага нішто, не б'юць. А ўчора лодка атакавала карабель. Як паведаміў ахоўнік, ахвярай піратаў быў транспарт саюзнікаў.

Лодка падрыгвае. Холадна. У адсеку крокі. Падыходзіць ахоўнік.

— Падымайся!

Неўзабаве Карцаў у каюце камандзіра лодкі.

— Я даклаў аб вас майму камандаванню, — гаворыць камандзір. — Мне загадана...

Падводнік не паспявае закончыць. У перагаворнай трубе голас:

— Камандзіра карабля прашу на цэнтральны пост.

Немец спешна выходзіць. Сігнал трывогі. Грымяць матроскія боты. У каюту, дзе сядзіць Карцаў, даносяцца толькі абрыўкі каманд. А перад дзвярыма ахоўнік.

І вось штуршок у насавой часці лодкі. Пайшла тарпеда. Карцаў лічыць секунды. На «дзесяць» новы штуршок: выстрал другой тарпедай. Зноў секунды пакутлівага чакання. Затым — далёкі ўдар вялікай сілы.

Лодка ідзе ў глыбіню.

Неўзабаве даносіцца другі ўдар.

На лодцы адменена трывогу. Карабель напаўняецца шумам. Да Карцава даносіцца:

— Чырвоны крыж на борце...

Яшчэ мінута і вяртаецца камандзір лодкі.

— Вось і ўсё, — гаворыць ён. — Гэта быў транспарт. Тып «Ліберці». Сем тысяч тон. Нахабнік, ён ішоў без аховы!

— У яго былі чырвоныя крыжы на бортах!

Камандзір лодкі быццам і не здзівіўся, што палонны ведае аб крыжах.

— Шпітальнае судна? Ну і што? Якая розніца?

Падводнік схіляецца да перагаворнай трубы:

— Акустык! Становішча!

На перагародцы карта. Яе закрываў плашч камандзіра. Цяпер, павярнуўшыся да перагаворнай трубы, гаспадар каюты зачапіў плашч, і той упаў на падлогу. На карце звілістая алоўкавая лінія. Відаць, шлях лодкі. А вось пункт, дзе яна цяпер знаходзіцца. У першую секунду Карцаў не верыць: гэта вельмі далёка ад месца, дзе загінуў яго карабель. Зрэшты, ён ужо два тыдні ў палоне, і ўвесь час лодка рухаецца. Куды ж яна накіроўваецца? У гэтым паўднёвым моры не павінна быць ваенных аб'ектаў гітлераўцаў.



 

# ХТО ВІНАВАТЫ

Мае даражэнькія. Паўліна, якая жыве ў Патоцы, вельмі цікавая і хітрая жанчына. Хаця яна і мая сваячка, але прызнаюся, што ие зацікаўленні не заўсёды на месцы. Падумайце ж, як толькі прачытала яна ў «Ніве» аб дарозе да Патокі, то не толькі мне і маёй суседцы, Мальвінцы, не давала спакою, але нават і да павятовых улад некалькі разоў хадзіла. Кажа: прыедзьце і паглядзьце, бо гэта сапраўды скандал. За некалькі месяцаў снег пусціць і зноў цягай гэтых пузачоў.

Я да яе са шчырым сэрцам: — Паўлінка, палярусы бы цябе спяклі, чаго ты ўчапілася.

Яна вочы вытрашчыла і кажа: — Не знаю як там у вас, але ў нас, у Патоцы, то ёсць многа добрых прыкладаў. Як рабілі калёніі, то мы пераканаліся. Інжынер Сухетка дзяліў. Падзяліў так, што ў аднаго пчаляра, калі прыехаў прадстаўнік з міністэрства, то нават баяўся на падворак прыйсці: так вузка, што як пчала забзычала, то, хаваючы галаву, каўнер ад кашулі адарваў.

— Ой, — кажа, — пчолы пакусаюць.

— Каб цябе халера, — кажа Паўліна. — Як жа ён, гаспадар, мае хадзіць?

Але гэты пан як учуў голас другое пчалы, то ўцёк з падворка і больш у вёску не паказаўся.

Мы з цікаўнасці паехалі да Патокі. Людзі нас чакалі. Думалі, што мы зробім людскім спосабам. Мы так і хацелі зрабіць, але пакуль мы даехалі, спаткала нас многа непрыемнасцей. Хацелі мы трохі службоваю дарогаю. Заехалі да Подварак і кажам да войта: — Едзем, брат, будзеш тлумачыцца, а мы паслухаем, які ты гаспадар грамады.

Наш войт паправіў новенькія галошы, што нядаўна замочвалі, адкаціў каўнер у жаночым цёплым кажуху і кажа:

— Маеце цёткі рацыю, іх даўно належалася праверыць, толькі не было каму.

І што вы падумаеце? Зараз каля Галенінага Івана Мальвінчына кабыла растапырылася. Як даехалі да мосціка на Патоцкім полі, то палазок так дзёрнуў у ямку, што трубы з бараноў саскочылі. Я сама хацела войта сапхнуць з фуры, але ён нечакана саскочыў і кажа:

— Цётачка, гэта яшчэ не ўсё. Бывала і горш, дзе мне нават смерцю гразіла, аб чым вы ўжо пісалі.

Я паглядзела на яго косым вокам і паехалі далей. Пакуль даехалі да Патокі, то многа ўсяго зразумелі. На сходзе было ўжо мала людзей, але справу грамадскіх вельмі многа. Разведаўшы, едзем дамоў дарогай да Тапалян. І сапраўды небывалае здарэнне. Даязджаем да тапалянскага палетка і сустракаем п'янага прымачка, які вяртаўся з гасцей ад швагра. — Ой, цёценька, — гаворыць прымачок. — Мінайце, калі ласка.

Я толькі хацела пацягнуць за ляйчыну, як раптам нейкі высокі мужчына мілым голасам гаворыць: — Здаецца з вас і разумная кабетка, а круціце каня проста на засевы. Тут жа азіміны пасеяны.

І тут, даражэнькія, мне зноў прыйшоў у галаву інжынер Сухетка, які і ў Тапалянах рабіў калёніі. Думаю: пэўна ён п'яны рабіў, бо на патоцкім полі зрабіў шырыню дарогі хіба 15 метраў, а на тапалянскім усяго 6 м. Чаму ж яму так хутка ў мазгах звужылася аж на цэлых 9 метраў?

На гэта нам нават сам войт не даў адказу, толькі сказаў слова: «бракароб». Я паківала галавою і нічога не сказала, але падумала: сапраўды бракаробы, але хто? Калі лягла спаці, перадумала і дайшла да вываду. Многія тут завінілі, а менавіта: мясцовыя радныя з Тапалян, ГРН у Подварках, многа і то вельмі многа начальнік з зямельнага аддзела ПРН Дапталка і многія другія. На другую ноч аднак прыснілася, што і я з Мальвінкаю завінілі, бо калі разумныя і адказныя за гэтыя справы начальнікі зусім забыліся, то чаму мы, дурныя бабы, не падбалі, каб было ўсё добра.

**Суседка Міхаліна**

# НІЎКА

— Гэтаму больш ні грама!

### У ТУНЕЛІ

— Калі б я ведаў, Віктарына, што гэты тунель такі доўгі, я б вас пацалаваў.

Маладая жанчына здзіўлена адказвае Янку:

— Дык гэта былі не вы?

### НІЧОГА

— Асцярожней, малады чалавек! Вы памачылі палец у маю талерку з супам!

— О, не хвалюйцеся. Нічога сур'ёзнага. Суп не гарачы.

### БАЦЬКІ

— Твой бацька, напэўна, вельмі скупы. Ён шавец, а прымушае цябе насіць свае старыя туфлі!

— А твой яшчэ скупейшы, ён зубны ўрач, а ў твайго брата толькі адзін зуб.

### НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ

Глядач (на футбольным матчы): Здаецца я страціў голас!

Сусед: Не хвалюйцеся, вы знойдзеце яго ў маім левым вуху.

### ЧАМУ

— Чаму вы не знімаеце акуляраў перад сном?

— Ведаеце, з некаторага часу я стаў настолькі блізарукі, што нават не пазнаю тых, хто мне сніцца.

### ЯК

— Учора ўвечары я адпачываў удвайне.

— Як гэта ўдвайне?

— Мне снілася, што я спаў.

### НАВОШТА

— Заўтра гадавіна нашага вяселля, я зарэжу труса.

— Навошта? Бедалага, гэта ж не яго віна.

### ТОЛЬКІ

— Ваша жонка дапамагае вам чысціць адзенне?

— Не, толькі кішэні.

### ПЕРШЫ ДЭЗЕРЦІР

Пасля паражэння ў Расіі Напалеон у простых санях імчаўся на захад. Разам са світай ён спыніўся ля Нёмана. Мясцовы селянін пераправіў генералітэт на процілеглы бераг. Напалеон, які любіў атрымліваць весткі з першых рук, спытаў лодачніка:

— Ці многа дэзерціраў пераправілася праз рэчку?

— Не, вы першы, — прастадушна адказаў селянін.

## ДУМКІ ЯСЬКІ АПАЛОНІКА

Кожная бочка цэлая, пакуль трымаюцца абручы.

Ідыёт мае таксама свае ідэалы.

Крыкам нельга заглушыць раненага сумлення.

Найвышэйшыя палёты прыводзяць летуноў на пачцівую зямельку.

Чалавек, які шукае пропасці, не заўважае зусім калодзежа.

— Хоць раз па-чалавечы паямо!

### МАРА

Надумаў у балет падацца бегемот,
Пра гэта марыў ён з юначых год,
Але не атрымалася — на ліха,
Ў партнёршы не пайшла сланіха!

**Міхась Кушняроў**

### ЯКУЮ

Размаўляюць двое.

— Вы, — кажа адзін, — ведаеце многа замежных моў. Ці не скажаце, якую з іх цяжэй за ўсё засвоіць?

— Мову жанчын! — адказаў другі.

### ПАКРЫЎДЖАНЫ КАЗЁЛ

Захацеў Казёл паласавацца яблыневымі галінкамі. Забег ён у сад і пачаў абгрызаць маладыя дрэўцы. Адно аб'еў, другое, ды раптам убачыў на галінцы Карэда. Аж пазелянеў Казёл ад злосці, барадою затрос.

— Дык вось хто сад нішчыць! Табе, злыдзень, Садоўнік такой шкоды не даруе!..

Прывёў Казёл Карэда да Садоўніка.

— Вось, — кажа, — хто дрэвы ў садзе псуе. Ці добра я зрабіў, што злавіў яго?

— Добра, што яго прывёў і сам прыйшоў, — сказаў Садоўнік. — І падзяка табе, барадаты, будзе...

Прывязаў ён Казла да яблыні ды так адхвастаў дручком, што Казёл дагэтуль абыходзіць сад за тры вярсты.

**Уладзімір Отчык**

Без слоў.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марыі Карчэўскай са Ступнікаў, Бельскага павета, змяшчаем песню п.з.

## ДАВНО МЫ ДОМА НЕ БЫЛИ

Горит свечи огарочек,
Гремит недальний бой.
Налей, дружок, по чарочке
По нашей фронтовой!

Не тратя время попусту,
Поговорим с тобой,
Не тратя время попусту,
По-дружески, да попросту
Поговорим с тобой.

Давно мы дома не были,
Цветет родная ель,
Как будто в сказке-небыли
За тридевять земель.

На ней иголки новые,
Медовые на ней,
На ней иголки новые,
А шишки все еловые,
Медовые на ней.

Где елки осыпаются,
Где елочки стоят,
Который год красавицы
Гуляют без ребят.

Без нас девчатам кажется,
Что звезды не горят,
Без нас девчатам кажется,
Что месяц сажей мажется,
А звезды не горят.

Зачем им зорьки ранние,
Коль парни на войне —
В Германии, в Германии —
Далёкой стороне.

Лети, мечта солдатская,
Напомни обо мне!
Лети, мечта солдатская,
К девчине самой ласковой,
Что помнит обо мне!

## КУРЁЗЫ

### Стойкасць варатара

Трэба ж было так здарыцца, што зіма ў Англіі ўступіла ў свае правы ў той момант, калі праходзіла каляндарная гульня на першынство краіны па футболу паміж камандамі »Нотынгем Форэст» і «Лестэр Сіці». Снежная завіруха ўзмацнялася з кожнай мінутай. Бачнасць на полі знікла цалкам. У пачатку другога тайма суддзя быў вымушан спыніць сустрэчу. Прайшло мінут дзесяць, і гракі «Лестэра» са здзіўленнем заўважылі, што ў душавой няма іх варатара. Адправіліся на пошукі і знайшлі яго... у варотах. Доблесны вартавы варот уважліва і напружана ўглядаўся ў снежную заслону. Калі яму растлумачылі, што гульня даўно скончылася, ён заявіў: «А я здзіўляюся, адкуль у нашых нападаючых столькі спрыту?»

### Вайна ў эфіры

Нядаўна ў Ісландыі пачаў працаваць першы ў краіне айчынны тэлецэнтр. Да гэтага часу ісландскае насельніцтва было вымушана глядзець перадачы амерыканскага салдацкага тэлецэнтра, які размешчаны на тэрыторыі амерыканскага гарнізона ў Ісландыі. Гэтыя перадачы складаліся галоўным чынам з рэкламы, парнаграфіі і паклёпу на ісландцаў. З увядзеннем у строй ісландскага тэлецэнтра рэпутацыя амерыканскіх перадач рэзка знізілася. Але ў адказ амерыканцы павялічылі магчымасць свайго перадатчыка і кольказь каналаў, так што цяпер у краіне практычна немагчыма прымаць ісландскія тэлеперадачы.

## СМЯЮЦЦА З НАМІ

Парадак дня на сходах мяняўся, а абмяркоўвалі адно і тое ж — рознае.